# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае дыяспары ў Чэхіі**

**№25 Сакавік - Травень 2012**

**Культурна-асьветніцкая газэта**

## ЗЬМЕСТ



## Беларуская Чэхія




*Прывітаньне ад сп-ні Сьвятланы Врановай.*
*Гл. артыкул "Чэская перакладчыца..." на ст. 11.*

## ДЗЕНЬ ВОЛІ 2012 у Празе

Напярэдадні Дня Волі, у суботу 24-га сакавіка, беларуская грамада пайшла на Альшанскія могілкі ў Празе, каб ушанаваць памяць беларускіх дзеячоў, тут пахаваных: прэзыдэнтаў БНР **Пётры Крэчэўскаг**а й **Васіля Захаркі**, ды беларускага сьпевака сусьветнай славы - **Міхася Забэйды-Суміцкага**.

Неўзабаве далучыўся да пераважна маладых сяброў грамады й вуніяцкі сьвятар **Андрусь Абламейка**, які, разам з прысутнымі памаліўся за беларускі народ.



*Ля магілы прэзыдэнта Крэчэўскага стала ганаровая варта зь бел-чырвона-белымі сьцягамі.*

Ля рэшты магілаў  мы пачулі кароткія прамовы на тэму дня ад некаторых малодшых сяброў, зь якіх хіба найцікавейшымі былі словы студэнта-гісторыка **Андрэя Бучы**, які апісаў багатую культурную й палітычную дзейнасьць беларускае студэнцкае грамады ў Празе, у 1920-ых гадох. Тады тут было больш за 200 беларускіх студэнтаў, больш, чым у Вільні - культурнай сталіцы 4-ох мільённае Заходняе Беларусі, тады  пад польскай акупацыяй.

У нядзелю 25 сакавіка адзначаньне Дня Волі прадаўжалася Літургіяй Дабравешчаньня Дзевы Марыі, у царкве сьвятых Кузьмы й Дзямяна. Багаслужбу веў **а. Андрусь Абламейка**— з асаблівай малітвай за беларускі народ.

Сьвяточная акадэмія праходзіла ў тэатральнай залі суседняга з царквою кляштару бэрнардынаў.

Бакавыя  сьцены залі былі ўпрыгожаныя мноствам здымкаў з ранейшых сьвяткаваньняў і розных палітычных акцыяў, што адбыліся ў Празе за апошніх 20 год. За ініцыятыву й выкананьне гэтай выставы трэба падзякаваць сп-ні **Вользе Абламейка.**



*Здымкі з акцыяў*

Былі прачытаныя прывітаньні: ад старшыні Рады БНР, **Івонкі Сурвіллы,** ад **Таварыства Беларускай Культуры ў Вільні**, ад арганізацыі **БАЗА ў Нью-Ёрку.**

Публіка  прасьпявала нацыянальныя гімны  "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" й "Магутны Божа"...

Галоўным пунктам праграмы была прэзэнтацыя кнігі **Ўладзімера Арлова**   "ПАКУЛЬ ЛЯЦІЦЬ СТРАЛА."

Зьмест гэтай кнігі, выдадзенай у сэрыі "Бібліятэка Свабоды", — гэта адказы на 100 пытаньняў пісьменьніку, на розныя тэмы: гісторыю, палітыку, філязофію, каханьне.



Сам аўтар , сп. Уладзімер,  прачытаў некаторыя адказы: больш таго,  чытаў ён вельмі  цікава й памастацку...

У акадэміі ўзялі ўдзел больш за 50 чалавек. Найстарэйшая ўдзельніца, якая ўжо даўно жыве ў Празе, сп-ня **Анастасія Булыга,** былая  сяброўка легендарнага  Саюзу Беларускай Моладзі, падзялілася з публікай сваімі ўспамінамі з тае пары.

Былі й госьці зь Беларусі, Аўстрыі, Расеі.

Імпрэзу закончыла музычная частка — выступам гурта **"Босае Сонца"**. Выступалі:  госьць зь Беларусі, сьпявак **Алесь Кот-Зайцаў**, і  мясцовы музыка, баяніст **Алесь Ясінскі.**



*Выступ гурта **"Босае Сонца"***

Надвор'е ў Празе на Дзень Волі было надзвычайнае — сонечнае й цёплае, быццам ужо прыйшло лета.

Парадаксальна, калі-б надвор'е было горшае, дык удзельнікаў акадэміі магло-б быць удвая больш: бо шмат хто з нармальна актыўных малодшых сяброў - аматараў выездаў  у прыроду, відаць, скарыстаў з гэтае нагоды.

## Вандроўныя музыкі

*Канцэрт фальклернай музыкі й падарожны расказ**

10 сакавіка г.г. у Беларускай клюбоўні на Жытнай вуліцы вандроўныя музы’кі — **Аўгіня Манцэвіч** (скрыпка) і **Верасень** (гітара)  выканалі шэраг народных песьняў : беларускіх, украінскіх, летувіскіх й іншых; апрача таго распавялі пра сваё цікавае падарожжа аўтаспынам па Паўдзённай і Цэнтральнай Амэрыцы — ад Вашынгтону ў ЗША да Патагоніі - на самым паўдзённым кончыку Аргентыны. Свой падарожны расказ ілюстравалі здымкамі - тут аказаўся вельмі карысным фільмовы праектар у Клюбоўні.

*(**Адрэдактара**: *падарожны расказ* - гэта мая спроба перакласьці на беларускую мову ангельскі выраз TRAVELOGUE)






*Шлях падарожжа вандроўных музы'каў*



*Іржы Марван*

## ДАБРАЧЫННЫ КАНЦЭРТ

*на падтрымку сям'і беларускага вязьня сумленьня Сяргея Каваленкі.*

адбыўся ў Празе 16-га сакавіка 2012.
Выступалі: **Сьвятаслаў Ліпень** ( гітара, сьпявак),
**Алесь Ясінскі** (баяніст)
Выступоўцы выканалі кампазыцыі сп. Ліпеня:
"Не размаўляй на мове акупантаў,"
"Шлях беларускага прадпрымальніка,"
"Чорная пэрла"
Сабраныя сродкі ўжо перададзеныя сп-ні Алене Каваленка.

## Прафэсар Марван: Для беларускай мовы ў Празе — вялікая прастора

*(З сеціўнай старонкі Радыя Свабода - РС.)*

У гасьцёх у нашай рэдакцыі пабывалі вядомы чэскі мовазнаўца, прафэсар Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе, **Іржы Марван** (Jiří Marvan) ды ягоны вучань **Міхал Вашічэк** (Vašíček).

Спадары Марван і Вашічэк распавялі нашаму радыё пра чэска-беларускі мовазнаўча-гістарычны зборнік — адмысловае выданьне, якое яны пачалі рыхтаваць да XV Міжнароднага зьезду славістаў, які адбудзецца 20-27 жніўня 2013 году ў Менску.

**РС**: Скажыце, як часта адбываюцца міжнародныя сустрэчы славістаў такога тыпу, як гэтая, што пройдзе ў Менску ў наступным годзе?

**Марван:** Мы сустракаемся кожныя пяць гадоў у адной са славянскіх мэтраполіяў. Апошні зьезд славістаў быў у Македоніі, у Скоп'е і над Ахрыдзкім возерам. У Менску такі зьезд яшчэ ніколі не праходзіў.

**РС:** Да гэтага зьезду вы рыхтуеце зборнік матар'ялаў пад працоўнай назвай «Чэскае ўсьведамленьне Беларусі». Гэта першая такога тыпу публікацыя ў гісторыі чэска-беларускіх дачыненьняў, ці некалі ўжо было нешта падобнае?

**Марван**: Наколькі мне вядома, у чэска-беларускай сфэры зацікаўленьняў гэта першая ініцыятыва такога роду. Хоць яна і першая, тым ня менш, як думаю, вельмі прэстыжная. Мы хочам паказаць у гэтым зборніку, як часта і як інтэнсіўна адбываліся кантакты паміж чэскай і беларускай культурамі. Бязумоўна, пачнем ад самога Францыска Скарыны.

**РС:** Ці ўжо ведаеце, колькі аўтараў возьме ўдзел у складаньні вашага зборніка?

**Марван**: Мяркуем, што аўтараў будзе 10-15. Мой калега ўдакладніць наконт аўтараў зь Беларусі. З Чэхіі, як думаю, будзе чалавек 8-10.

**РС:** Спадар Вашічэк, а хто зь Беларусі далучыцца да гэтага зборніка?

**Вашічэк**: Гэтага мы дакладна яшчэ ня ведаем, мы разаслалі інфармацыю на розныя факультэты і ў акадэмічныя ўстановы. Пакуль мы атрымалі тры або чатыры адказы. Але спадзяемся, што гэта яшчэ не канчатковая лічба, што яна павялічыцца.

**РС:** Якога тыпу матар'ялы будуць у вашым зборніку? Мовазнаўчыя, літаратуразнаўчыя, гістарычныя?

**Марван:** Мы не абмяжоўваем тэматыкі матар'ялаў. Мы хочам ахапіць як мага шырэйшую сфэру культурных дачыненьняў, а таму вітаем ня толькі мовазнаўчыя ці літаратуразнаўчыя матар'ялы, але і іншыя. Націск робіцца на тое, каб паказаць, як блізкімі былі разнастайныя сувязі паміж нашымі краінамі ў гісторыі.

**РС**: У інфармацыі пра зборнік вы пішаце, што адна зь яго частак можа быць прысьвечаная тэме беларускіх «варыянтных падмоў, сублінгваў», то бок, напрыклад трасянцы ці палескай і падляскай мікрамовам. Прытым, вы хочаце зьмясьціць ня толькі матар'ялы пра беларускія мікрамовы, але і матар'ялы, напісаныя на гэтых мікрамовах. Пракамэнтуйце, калі ласка, гэтую ідэю.

**Марван:** Праская традыцыя вывучэньня славянскіх мікрамоваў — даволі багатая. Я сказаў бы, што якраз мы трымаем пад увагай найбольшую колькасьць мікрамоваў, якія зьявіліся на нашых даляглядах. Зразумела, што мы высока цэнім уклад першапраходнікаў, такіх як прафэсар Аляксандар Дулічэнка, родам з Украіны, які працуе ў Тартускім унівэрсытэце. Асаблівасьцю чэскай славістыкі зьяўляецца зацікаўленьне сувязямі паміж мікрамовамі і стандартнымі літаратурнымі мовамі. Нас таксама цікавяць прычыны — у прыватнасьці, этычныя прычыны — дзеля якіх людзі разьвіваюць мікрамовы. Гэта адбываецца ў рамках сучаснай навуковай дысцыпліны, якая называецца экалінгвістыкай — то бок, дысцыпліны, у якой на мову глядзяць як на навакольнае асяродзьдзе носьбіта.

**РС**: Ці ёсьць рэальныя шанцы, што некаторыя ўдзельнікі вашага зборніка дадуць вам матэрыялы, напісаныя на мікрамове, а не на стандартнай літаратурнай мове?

**Вашічэк:** Спадзяемся, што будуць артыкулы на палескай мове і, магчыма, на падляскай, якую разьвівае Ян Максімюк.

**РС:** Зь Беларусі вам нехта абяцаў, што напіша па-палеску?

**Вашічэк:** Напэўна, гэтага можна чакаць ад прафэсара Хведара Клімчука. Але пакуль гэта яшчэ ня вырашана. Магчыма, ён напіша па-беларуску.

**РС**: Да якога тэрміну можна вам прысылаць матар'ялы? І калі мяркуеце выпусьціць зборнік друкам?

**Марван:** Мы былі б рады, калі б патэнцыяльныя ўдзельнікі гэтага праекту адазваліся да нас да канца красавіка. А дасылаць нам матар'ялы можна будзе яшчэ цягам двух месяцаў, то бок, да канца чэрвеня. У верасьні мы хацелі б здаць зборнік у друк.

**РС**: Як вы наагул ацэньваеце зацікаўленьне беларускай праблематыкай сярод чэскіх навукоўцаў?

**Марван**: Я думаю, што перавага Праскага ўнівэрсытэту якраз у тым, што тут людзі цікавяцца ўсімі славянскімі мовамі. А паколькі ўнівэрсытэт хоча падтрымліваць гэтую амбіцыю адносна зацікаўленьня ўсімі славянскімі мовамі, дык і для вывучэньня беларускай мовы тут ёсьць даволі вялікая прастора. Да таго Праскі ўнівэрсытэт мае самыя багатыя традыцыі ва ўкраіністыцы, а гэты факт вельмі дапамагае і беларусістыцы, паколькі лягічна, што зацікаўленьне ўкраінскай мовай выклікае натуральнае зацікаўленьне і беларускай. Мне падаецца, што ні ў якай іншай краіне такога патэнцыялу няма.



*Міхал Вашічэк*

**РС**: Апошняе пытаньне да спадара Вашічка. Вось вы нам адказваеце на выдатнай беларускай мове. Мы ведаем, што вы нейкі час жылі ў Менску. Ці вы маглі б сказаць нам некалькі слоў пра свае зацікаўленьні беларушчынай?

**Вашічэк**: Я якраз пачаў хадзіць на першыя курсы беларускай мовы, якія праводзіліся ў нашым унівэрсытэце. Мову ў нас выкладаў спадар Юры Бушлякоў. Я вельмі захапіўся беларускай мовай і потым вырашыў паехаць па абмену ў Менск. У нас ёсьць такія магчымасьці выехаць вучыцца за мяжу. І ў Менску адзін сэмэстар я вывучаў беларускую мову.

## ВІНШУЕМ!

сп-ню Тацьцяну Зайкіну і
сп. Віталя Цімошчанку
з нараджэньнем сына **АЛЕСЯ**
Хай-жа жыве Алесь на радасьць і карысьць беларускаму народу!

## ВІНШУЕМ нашых сяброў з НАРОДЗІНАМІ!

**у САКАВІКУ:**
**Кірылу Якімовіча, Алену Бойка, Ганну Васілевіч, Любу Грунькоўскую, Натальлю Ратнікаву, Яўгена Мурашку, Юлю Гладкую, Касю Палівада, Сяргея Макарава, Аляксея Францкевіча, Андрэя Бучу, Юрку Станкевіча, Віталя Воранава, Жэню Манцэвіч**

**у КРАСАВІКУ:**
**Жану Віткоўскую, Кацю Навуменка, Надзю Шчарбакову, Рыту Гаціх**

**у ТРАЎНІ:**
**Алесю Вінакураву, Віталя Цімошчанку Андрэя Навуменку, Алеся Гладкага**

## Архівы беларускіх выданьняў на Сеціве

Дарагія суродзічы!

Гэты нумар **КРЫВІ (№ 25)** ў фармаце PDF а таксама й папярэднія нумары (10-24) можаце лёгка сьцягнуць (спампаваць) з сеціўнай старонкі

**http://thepointjournal.com/**

## РАЗВАЖАНЬНІ прафэсара Захара Шыбекі:

Беларусы — гістарычны народ, у нас і раней была дзяржаўнасьць: Полацкае княства і Вялікае Княства Літоўскае. У складзе Расійскай імпэрыі мы былі захопленай эўрапейскай краінай. За незалежнасьць ад Расіі пасьлядоўна змагаліся лепшыя прадстаўнікі беларускай шляхты і разначынцаў, дзеячы народніцкага руху, Беларускай Народнай Рэспублікі і антыкамуністычнага супраціву 1920—1980-х гадоў.

Ідэя незалежнасьці, як ні хацелі яе вынішчыць бальшавікі, жыла не толькі ў асяродку беларускай эміграцыі, але і сяяд дасьведчаных і адукаваных грамадзян БССР. Існаваў народ, яго мова, культура, гісторыя і традыцыя. І ўсё гэта некалі павінна было выліцца ў акт дзяржаўнай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь.

## НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

### Дзень Волі 2012 у Менску

**Па словах аднаго з заяўнікаў Дня Волі ў Менску, нягледзячы на вельмі кепскае надвор’е, мерапрыемства ў Мінску атрымалася шматлюдным і годным.**

Хаця ўлады не ва ўсім выканалі свае абяцаньні. Так заказаны і аплочаны аўтобус з гукаўзмацненьнем міліцыя адагнала ў Савецкі РАУС. Кажа **Віктар Івашкевіч**:

*– Паскудзтва нарабілі, аўтобус з гукаўзмацненьнем, за які мы гарадзкім уладам заплацілі 700 тысяч рублёў, угналі. Ад шостай гадзіны раніцы супрацоўнікі КДБ прабавалі ўламацца ў маю хату, у хату маіх бацькоў, каб затрымаць. Тым ня менш, дзякуючы таму, што прыйшло шмат людзей, яны не пайшлі на сілавыя дзеяньні. І гэта паказчык, калі нас шмат, дык гэта бар'ер перад брутальнымі дзеяньнямі міліцыі.*

Па словах Віктара Івашкевіча, ён вельмі рады, што, нягледзячы на ціск уладаў, так шмат людзей выходзіць на мерапрыемствы. Але тых, хто сочыць за мітынгамі і дэманстрацыямі па інтэрнэту, нашмат больш. “Ім павінна быць сорамна, што яны ня з намі, на мітынгу,” – сказаў Івашкевіч.

**Генадзь Барбарыч, Радыё Рацыя.**




---

***Паважаныя чытачы!***

*На бачынах 5 і 6 зьмешчаны сьпіс 15 палітычных вязьняў, уключна з АДРАСАМІ месца зьняволеньня.*

***ЗАКЛІКАЕМ** Вас усіх - напішэце кажнаму зь іх ад сябе пару радкоў. Падтрымайце іх на духу - хай ведаюць, што беларускі народ ЗЬ ІМІ!*

## Палітычныя Вязьні ў Беларусі

***29 сакавіка 2012***



**СТАТКЕВІЧ** Мікалай, кандыдат у прэзыдэнты, 55 г.
212011 г. Магілеў
вул. Крупскай 99А
турма №. 4
ПРЫСУД: **6 год** зьняволеньня



**САНЬНІКАЎ** Андрэй, кандыдат у прэзыдэнты, 58 г.
2113000 Віцебская вобл.
п. Віцьба
папраўчая калонія №. 3
ПРЫСУД: **5 год** зьняволеньня



**ЛОБАЎ** Эдуард, студэнт, лідар арг. Малады Фронт, 23 г.
225295 Брэсцкая вобл.
г. Івацэвічы
Воўчыя норы, а/с. 20
папраўчая калонія № 22
ПРЫСУД: **4 гады** зьняволеньня



**БАНДАРЭНКА** Зміцер, каардынатар руху Еўрапейская Беларусь, 48 г.
213105 г. Магілеў.
Слаўгарадская шаша, п.а Вейна
папраўчая калонія №. 15
ПРЫСУД: **2 гады** зьняволеньня



**ДАШКЕВІЧ** Зміцер, старшыня арг. Малады Фронт, 30 г.
211791 Віцебская вобл.
г. Глыбокае, вул. Савецкая 205,
папраўчая калонія №. 13
ПРЫСУД: **2 гады** зьняволеньня



**ФРАНЦКЕВІЧ** Аляксандр,
праграміст, 21 г.
225295 Брэсцкая вобл.
г. Івацэвічы
Воўчыя норы, а/я. 20
папраўчая калонія №. 22
атрад № 2
ПРЫСУД: **3 гады** зьняволеньня



**СЕВЯРЫНЕЦ** Павел,
заст. старшыні Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі,
пісьменьнік, 35 г.
225143 Брэсцкая вобл.
Пружанскі раен, веска Куплін,
ПУАТ-7
ПРЫСУД: **3 гады** зьняволеньня



**ПРАКАПЕНКА** Арцём, студэнт,
21 г.
г. Шклоў,
папраўчая калонія №. 17
атрад № 15
ПРЫСУД: **7 год** зьняволеньня



**БЯЛЯЦКІ** Алесь, старшыня права-абарончай арг. ВЯСНА,
49 г.
213800 Магілеўская вобл.,
г. Бабруйск, вул. Сікорскага 1
ПРЫСУД: **4.5 гады** зьняволеньня



**СЫРАМОЛАТАЎ** Павел, студэнт,
музыка, 20 г.
213030 г. Магілеў.
Слаўгарадская шаша, 3 км.
папраўчая калонія № 19
ПРЫСУД: **7 год** зьняволеньня



**АЛІНЕВІЧ** Ігар, інжынер, 28 г.
211440 Віцебская вобл.
г. Наваполацк, вул. Тэхнічная 8,
папраўчая калонія №. 10
ПРЫСУД: **8 год** зьняволеньня



**АЎТУХОВІЧ** Мікалай,
прадпрымальнік, вэтэран афганскай вайны, 49 г.
230023 г. Гродна, вул. Кірава 1,
турма №. 1
ПРЫСУД: **5 год + 2 месяцы** зьняволеньня



**ВАСЬКОВІЧ** Яўген, студэнт,
20 г.
212011 г. Магілеў, вул. Крупскай 99А,
турма №. 4
ПРЫСУД: **7 год** зьняволеньня



**КАВАЛЕНКА** Сяргей, муляр, 37 г.
2113000 Віцебская вобл.
п. Віцьба
папраўчая калонія № 3
ПРЫСУД: **2 гады + 1 месяц** зьняволеньня



**ДЗЯДОК** Мікалай, студэнт, 23 г.
213105 г. Магілеў.
Слаўгарадская шаша, п.а Вейна
папраўчая калонія №. 15,
атрад № 4
ПРЫСУД: **4.5 гады** зьняволеньня

# Някляеў: «Я выбіраю Раду БНР»

*Лідэр кампаніі «Гавары праўду», экс-кандыдат у прэзыдэнты Уладзімер Някляеў выказаў сваё стаўленьне да стварэньня ўраду ў выгнаньні.*

«Беларуская Народная Рэспубліка — гэта тое, што ў нас павінна быць і будзе, — піша Ўладзімер Някляеў. — Гэта тая Беларусь, да якой мы ніяк ня можам дайсьці. Таму час ад часу зьяўляюцца павадыры.

Адзін зь іх — доктар Ганс-Георг Вік, які прапанаваў стварыць беларускі ўрад у выгнаньні. Каб ён прадстаўляў за мяжой Беларусь. Доктар Ганс-Георг Вік ды іншыя дактары будуць гэты ўрад падтрымліваць — і ён давядзе нас да новай, дэмакратычнай Беларусі.

Тут проста ня можа ня ўзьнікнуць лягічнае пытаньне: а чаму б не падтрымаць той беларускі ўрад у выгнаньні, які ўжо ёсьць: Раду Беларускай Народнай Рэспублікі? Урад, які амаль стагодзьдзе змагаецца за незалежную, эўрапейскую Беларусь. Для чаго (і для каго) патрэбны новы?

Па-сутнасьці, менавіта пра гэта спытаў доктар Янка Запруднік, уступіўшы ў спрэчку з доктарам Гансам-Георгам Вікам. Каго гэты новы ўрад будзе прадстаўляць?..

Доктар Янка Запруднік тактоўна ня стаў адказваць на гэтае пытаньне наўпрост. А паколькі я ня доктар і праз тое не такі тактоўны, як спадар Янка, дык адказваю: новы ўрад ня будзе прадстаўляць нікога, апроч сябе самога. Прадстаўляць Беларусь ён ня зможа хоць бы праз адсутнасьць легітымнасьці, якую, прадстаўляючы Беларусь, мае Рада БНР.

Мяне, мякка кажучы, зьдзіўляе беларуская апазыцыя, якая з таго часу, як за мяжу змушаны быў зьехаць Зянон Пазьняк, практычна ігнаруе Раду БНР. І даводзіць эеўрапейскім партнэрам, што ў Радзе няма з кім мець справу. Што яна — толькі сымбаль.

Гэткае стаўленьне з боку апазыцыі да Рады БНР выклікала адпаведныя адносіны да яе (дый увогуле да беларускай эміграцыі) з боку нашых заходніх партнэраў. На іх сустрэчах з прадстаўнікамі беларускай дэмакратычнай супольнасьці я ніколі ня бачыў ніводнага прадстаўніка Рады БНР. Аднойчы (у Вільні) наўпрост спытаў: «Чаму няма?». І пачуў у адказ: «Удзельнікаў з вашага боку вызначаеце вы».

Я не вызначаў. А калі б вызначаў, дык на ўсіх спатканьнях, якія ладзяцца па беларускіх пытаньнях, абавязкова былі б прадстаўнікі Рады. І я прашу нашых партнэраў, якім вельмі ўдзячны за іх шматгадовыя высілкі ў дапамозе Беларусі на яе пакутлівым шляху да дэмакратыі, гэта ўлічыць.

Перад рэальнай небясьпекай, перад пагрозай страты незалежнасьці мы проста абавязаныя ўсе беларускія сілы сабраць у кулак. Хопіць тыркаць растапыранымі пальцамі, кожны раз спрабуючы вызначыць пры гэтым, які палец большы. Я згодны быць меншым. Хоць мезенцам. Але ў кулаку.

Народны паэт Беларусі, сустаршыня Ўсебеларускага зьезду за незалежнасьць Рыгор Барадулін напісаў: «Большы ня той, хто цыбаты. Большы той, хто вялікі».

Рада БНР, ня ўцягнутая ва ўнутрыапазыцыйныя высьвятленьні адносінаў, адстойвае не партыйныя і не нечыя асабістыя — агульнабеларускія інтарэсы. Абылганыя савецкай і лукашэнкаўскай прапагандай як «ворагі, здраднікі, фашысцкія наймiты», апазыцыяй пераведзеныя ў «сымбалі», сябры Рады БНР даўно б маглі, што называецца, вымыць рукі. Папросту сказаць: здацца. Асымілявацца. Забыцца на сваю беларускасьць, якая ў прагматычным заходнім сьвеце нічога ім не дае. Толькі забірае — і не адно час і нэрвы.

Але яны не здаліся. Не асыміляваліся. Ні на што сваё не забыліся.

Няхай сабе нехта лічыць, што Рада БНР — толькі сымбаль. Але гэта сымбаль таго ж кшталту, што й Пагоня, што й бел-чырвона-белы сьцяг. І сябры Рады ўсіх часоў — гэткія самыя сымбалі, якім ёсьць нязкораная, ня зломленая Ларыса Геніюш.

У спрэчцы паміж Вікам і Запруднікам я на баку Запрудніка.

Выбіраючы паміж Гансам-Георгам і Янкам, я выбіраю Янку.

Паміж новым урадам у выгнаньні і Радай БНР я выбіраю Раду БНР, са зьяўленьнем якой зьявілася 25 сакавіка 1918 году — наша першае нацыянальнае сьвята. Таму яна, Рада, назаўсёды застанецца першай — паперадзе ўсіх, якія былі і будуць, урадаў" — піша экс-кандыдат у прэзыдэнты Уладзімер Някляеў.

Артыкул «Падарункі да Дня Волі» зьмешчаны ў інтэрнэт-выданьні “Naviny.by”

**Крыніца:** Радыё Свввода, 21.03. 2012

# ЗАГАД ЧЫНОЎНІКАМ

«У выкананьне даручэньняў кіраўніка дзяржавы, дадзеных 24 лютага 2012, у ходзе нарады па выніках правядзеньня нарады Нацыянальнага музычнага праекту «Еўрафэст», першы намесьнік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. М. Радзькоў зьвярнуўся да вас з просьбай у 2012 годзе:

Забясьпечваць аптымізацыю расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасьцей, пастаноўку спектаклей, фільмаў, канцэртных праграмаў, правядзеньне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў;

Прыняць канкрэтныя меры па недапушчэньні правядзеньня кіраўнікамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый палітыкі **прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэньня выкарыстання рускай мовы** ў іх дзейнасьці».

Дакумент ідзе за подпісам намесьніка начальніка ўпраўленьня справамі аблвыканкаму, загадчыка аддзела па арганізацыйна-метадычнай працы і справаводзтву Вольгі Клімаховіч.

Мы патэлефанавалі ў Брэсцкі аблвыканкам, каб пераканацца ў сапраўднасьці дакумента.

«Так, сапраўдны, — адразу сказала спн. Клімаховіч. — Яны ідуць за маім подпісам, бо ўсе дакументы праходзяць праз мой аддзел, а не адразу да Сумара. Адкуль ён да вас трапіў?»

Даведацца ад Вольгі Клімаховіч, якія меры будуць прымяняць, каб «спыніць прымусовую беларусіфікацыю» нам не ўдалося.

**....Пра якую «беларусіфікацыю» можа ісьці гаворка, калі летась па-беларуску ў краіне вучылася толькі 19% школьнікаў — драматычная нізкая лічба.**

**У навучальным годзе 1994/1995 (год прыходу да ўлады Лукашэнкі) у першыя класы зь беларускай мовай навучаньня набіралася 75% дзяцей, то ў наступным толькі 38%. Дагэтуль няма ніводнай беларускамоўнай**

**вышэйшай навучальнай установы! Хоць студэнты і грамадзкасць гэтага даўно дабіваюцца. Абсурд: школьнікі вучацца па-беларуску, але ня маюць універсітэтаў, дзе маглі б працягваць вучыцца па-беларуску. «Элегантная русіфікацыя» ажыцьцяўляецца з дапамогай такіх вось прыёмаў.**

**Пра інтэнсіўную русіфікацыю сведчаць вынікі двух перапісаў насельніцтва, якія праходзілі за часамі незалежнасці. Калі ў 1999 па-беларуску дома размаўляла 36,7% жыхароў краіны, то ў 2009 толькі 23,4%. Няма другой краіны ў Еўропе, дзе б так імкліва зьмяняўся моўны баланс**.

«Пытаньні моўныя ў краіне вырашаны раз і назаўсёды. Прынамсі, калі я буду прэзідэнтам. Мы гэтае пытаньне рашылі на рэферэндуме. Мова — гэта тая сфера, якая ня церпіць гвалту. Людзі павінны вырашаць самі. Толькі ідыёт у Беларусі можа адмовіцца ад расійскай мовы. У нас няма тэрмінаў па фізіцы, хіміі на беларускай мове. А тыя, што ёсьць, сорамна гаварыць. У рускай мове, не расейскай, як некаторыя называюць, наша душа», — казаў Лукашэнка ў сьнежні 2009.

**Крыніца**: *Наша Ніва*, 13 сакавіка 2012

---

# Гісторык Шыбека: “Калі сытуацыя мяняецца, дэпутаты вымушаныя рабіць тое, што патрабуе народ”

Такую думку ён выказаў у інтэрвію газэце «Народная воля», якае распачынае цыкл Марата Гаравога “Гісторыя Беларусі ў асобах”, прысьвечаны дасягненьню незалежнасьці краіны ў пачатку 1990-ых гадоў.

«Меркаваньне, што незалежнасьць звалілася на нас зь неба, дамінуе сярод людзей, якія ня ведаюць мінулага Беларусі і ніколі не жылі ў нацыянальным кантэксьце, -- пераканаты Захар Шыбека. -- Для такіх асоб назалежнасьць стала нечаканым гістарычным паваротам.

Але нічога выпадковага не бывае ў гісторыі, бо яна будуецца на прычынна-сьледчых сувязях. Вынікам можа быць толькі падзея, якая рыхтавалася стагоддзямі і выцякае з папярэдняга этапу.

У складзе Расійскай імпэрыі мы былі захопленай эўрапейскай краінай.

Дык вось беларусы — гістарычны народ, у нас і раней была дзяржаўнасьць: Полацкае княства і Вялікае Княства Літоўскае. У складзе Расійскай імпэрыі мы былі захопленай эўрапейскай краінай. За незалежнасьць ад Расіі пасьлядоўна змагаліся лепшыя прадстаўнікі беларускай шляхты і разначынцаў, дзеячы народніцкага руху, Беларускай Народнай Рэспублікі і антыкамуністычнага супраціву 1920—1980-х гадоў.

Ідэя незалежнасьці, як ні хацелі яе вынішчыць бальшавікі, жыла не толькі ў асяродку беларускай эміграцыі, але і сярод дасьведчаных і адукаваных грамадзян БССР. Існаваў народ, яго мова, культура, гісторыя і традыцыя. І ўсё гэта некалі павінна было выліцца ў акт дзяржаўнай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь.

Пасьля сьмерці Сталіна рух за ідэю дзяржаўнай незалежнасьці актывізаваўся.

Заслуга апазыцыі БНФ у тым, што яна захавала гістарычную пераемнасьць і пачала актыўна рэалізоўваць яе. Пасьля сьмерці Сталіна рух за ідэю дзяржаўнай незалежнасьці актывізаваўся, нягледзячы на тое, што засталіся адзінкі — носьбіты гэтай ідэі. Але гэтыя адзінкі стварапі вакол сябе кола аднадумцаў. Вялікую ролю ў гэтай справе адыграла Ларыса Геніюш, бо ўсе дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі так ці інакш былі зьвязаны з ёй. І яна — як апошні з магікан — перадала ідэю незалежнасьці Беларусі маладому пакаленьню, якое дало разьвіцьцё гэтай ідэі, стварыла Беларускі Народны Фронт і аб’ядняла вакол сябе значную частку грамадзтва.

Часта БНФ абвінавачваюць у тым, што ён зрабіў памылку, бо прытрымліваўся вузка нацыяналістычных пазыцый у час, які адрозьніваўся ад пэрыяду 1920—1930-х гадоў, калі працавала нацыянальная ідэя. На самай справе я ня бачу падстаў для абвінавачваньня, бо нацыянальную ідэю заўжды хтосьці павінен прэзэнтаваць і адлюстроўваць настрой той часткі грамадзтва, для якой гэтая ідэя зьяўляецца сьвятой. А калі б ня было БНФ, хто прэзэнтаваў бы гэтую ідэю? Тады б у нас нічога беларускага ня было, і мы б даўно былі ў складзе Расіі як яе правінцыя” -- лічыць Захар Шыбека.

Ва ўмовах татальнага засільля камунізму Пазьняк ня мог напоўніцу рэалізаваць свае здольнасьці



*Захар Шыбека.*

“Сярод камуністычных дзеячоў пачатку 1990-х гадоў я ня бачу ні воднага, хто змог бы параўнацца з нацыянал-бальшавікамі пэрыяду ўтварэньня БССР — са Зьміцерам Жылуновічам і Алесем Чарвяковым,— адзначае гісторык.— Дзеячы КПБ пачатку 1990-х у пераважнай большасьці страцілі сваю нацыянальную адметнасьць і былі шэрымі, безыніцыятыўнымі і паслухмянымі выканаўцамі волі Масквы. Іншая справа — бясспрэчны лідэр апазыцыі Зянон Пазьняк. Калі б ён нарадзіўся раней і быў сталым палітыкам ў 1918 годзе, магчыма, Пазьняк змог бы дабіцца незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі нават у тых няпростых умовах. Бо ён быў больш моцнай і харызматычнай асобай, чым мяккія і нерашучыя лідэры БНР... Але на пачатку 1990-х ва ўмовах татальнага засільля камунізму Пазьняк ня мог напоўніцу рэалізаваць свае бліскучыя здольнасьці лідэра. Нават тое, што яму ўдалося зьдзейсьніць, — гэта фантастыка. Узровень сябраў дэпутацкай фракцыі БНФ таксама аказаўся на парадак вышэй патэнцыялу лідэраў БНР. Вакол Пазьняка сфармавалася даволі моцная каманда, якая магла ўтварыць сапраўды нацыянальны ўрад і правесьці дэмакратычныя рэформы. А калі б Беларусь стала дэмакратычнай, дык і Расія таксама атрымала б больш шанцаў стаць дэмакратычнай. Ва ўсялякім разе

працэс яе дэмакратызацыі ішоў бы хутчэй, бо эўрапейскія каштоўнасьці заўсёды траплялі ў Расію праз Беларусь, якая была кантактнай зонай паміж заходнеэўрапейскай цывілізацыяй і ўсходнім еўразійствам..".

У вострай гістарычнай сытуацыі вельмі важным фактарам зьяўляецца настрой грамадства

Адказваючы на пытаньне, якія высновы можа зрабіць беларускае грамадства з перамогі апазыцыі БНФ у 1991 годзе, гісторык Захар Шыбека сказаў: «Гэтая перамога засьведчыла вялікія магчымасьці парлямэнтарызму і паказала, што парлямэнцкім шляхам можна вырашаць вельмі сур'ёзныя праблемы і нават пытаньні палітычнай улады. І ня трэба ні рэвалюцый, ні крыві, ні барыкад, бо парлямэнт — гэта такі мэханізм, які дазваляе мірным шляхам перайсьці ад адной мадэлі палітычнай улады да другой...Трэба мець на ўвазе, што ў вострай гістарычнай сытуацыі вельмі важным фактарам зьяўляецца настрой грамадства. І дэпутаты-апазыцыянэры гэты фактар выкарысталі напоўніцу. У маштабах краіны парлямэнцкая камуністычная большасьць аказалася ў меншасьці са сваімі састарэлымі ідэаламі і палітычнай праграмай. Вось чаму прадстаўніком партнамэнклятуры ў Вярхоўным Савеце не заставалася нічога іншага, як падпарадкавацца волі народу, якую ў парлямэнце адлюстроўвала фракцыя дэпутатаў, што былі сябрамі Беларускага Народнага Фронту. Гэты факт сьведчыць, што, у прынцыпе, ня вельмі важна, хто знаходзіцца ў парлямэнце. Калі сытуацыя рэзка зьмяняецца, то гэтыя дэпутаты вымушаны будуць рабіць тое, што патрабуе час і да чаго іх прымушае народ. І гэта самы галоўны ўрок тых падзей 20-гадовай даўніны"- лічыць гісторык Захар Шыбека.

Наступная публікацыя цыклю "Гісторыя Беларусі ў асобах", які анансуе *Народная воля*, будзе прысьвечаная дэпутату ВС 12 скліканьня Галіне Сямдзянавай.

**Крыніца:** Радыё Свабода, 1 красавіка 2012

# Як змагацца за беларускую мову

*Згодна зь перапісам, трацiна беларусаў штодзень карыстаецца беларускай мовай, а сярод моладзі мова "ў трэндзе". Аднак, часта беларускамоўныя адчуваюць сябе неабароненымі і нават дыскрымінаванымі. Як з гэтым змагацца, якімі метадамі і дзе шукаць дапамогі?*

Змагацца за беларускую мову можна ў самых розных сферах. Для студэнтаў актуальным зьяўляецца абарона права навучаньня на роднай мове або выкладаньня пэўных дысцыплін (напрыклад, гуманітарных) на беларускай мове. Для юрыстаў важным зьяўляецца забеспячэньне ўжытку беларускай мовы ў зносінах з уладамі – ў гэтым кірунку ёсьць маленькая перамога, бо з гэтага году чыноўнікі абавязаны даваць адказы на мове звароту..

**Адказвай мне па-беларуску!**

Вялікую працу ў галіне абароны беларускай мовы, якую робіць кампанія **"Справаводства па-беларуску."** Юнак з Гомелю, Ігар Случак, на працягу апошні некалькіх год вядзе ўпартае змаганьне накіраванае на паляпшэньне рэйтынгу беларускай мовы ў грамадстве з дапамогай больш шырокага яе распаўсюду ў справаводстве. Дзякуючы кампаніі зусім нядаўна былі прыняты змены ў закон "Аб зваротах грамадзян", згодна зь якімі унесена норма, якая будзе абавязвае даваць адказ грамадзянам на мове звароту ва ўстанову. Таксама Ігар Случак змагаецца за пашырэньне беларускай мовы ў рэкламным бізнесе, бо апошнія сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што 70% грамадзян станоўча адносяцца да рэкламы на беларускай мове.

**Самы актыўны барацьбіт за беларускую мову**

Таксама актыўнай абаронай беларускай мовы займаецца Таварыства Беларускай мовы, , якое было створана яшчэ ў 1989 годзе. Дзякуючы яму ў грамадзкім транспарце прыпынкі аб'яўляюць па-беларуску, а таксама на ўсіх білетах маецца інфармацыя на мове тытульнай нацыі. Акрамя таго ТБМ актыўна займаецца распаўсюдам ідэі стварэньня беларускамоўных класаў у школах і беларускамоўных групаў у дзіцячых садках.

**Пра што кажа закон?**

Асноўны закона, які абараняе правы беларускамоўных, – Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (арт. 50: "Дзяржава гарантуе кожнаму права карыстацца роднай мовай і выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе свабоду выбару мовы, выхаваньня і навучаньня").

З дадзенага артыкулу варта пачынаць змаганьне за родную мову ў любых сітуацыях. Можна пачаць збор подпісаў з пазначэньнем гэтага артыкулу, а можна пачаць накіроўваць дзесяткі зваротаў у розныя дзяржаўныя інстанцыі. Калі ў вас нічога не атрымалася, нават пры ўпамінанні Канстытуцыі, то варта зьвярнуцца да Адміністрацыйнага кодэксу (арт. 9.22 "Парушэньне заканадаўства аб мовах").

Часам можна пачуць у свой боку фразы кшталту "говори на нормальном языке» або яшчэ горш «говори по-человечески». Пры такіх сітуацыях варта сьмела выкарыстоўваць артыкул таго ж кодэксу (арт. 9.3: " наўмыснае прыніжэньне гонару і годнасьці (у тым ліку па моўнай прыкмеце). Можа і ня трэба падаваць на чалавека ў суд, але прыстрашыць бязкультурную асобу можна.

Калі інфармацыя пра вялікія штрафы не дае ніякага выніку ў вашым змаганьні за родную мову, то варта паспрабаваць выкарыстоўваць Крымінальны кодэкс РБ (артыкул 190 "наўмыснае парушэньне правоў і свабод у залежнасьці ад полу, расы, нацыянальнасьці, мова [...]прадугледжвае санкцыі да пазбаўленьня волі да 2-х год). Таксама рэкамендую азнаёміцца з падобнымі артыкуламі 130 і 189.

**Як можна змагацца за родную мову?**

Агулам можна выдзяліць 3 асноўных спосабаў змаганьня за родную мову:

1) Збор подпісаў або калектыўных зваротаў у дзяржаўныя органы ўлады.

2) Можна звярнуцца па дапамогу да праваабаронцаў: *Праваабарончы Цэнтр "Вясна,"* *Беларускі Гэльсінскі Камітэт, Студэнцкая Рада* , а таксама да *Таварыства Беларускай Мовы*

3) Карысна падключыць да сваёй працы ў гэтым кірунку аднадумцаў, якіх можна знайсьці праз сацыяльныя сеткі, напрыклад у суполках *Я разумею беларускую мову! ЗА АДЗІНУЮ дзяржаўную МОВУ Ў Беларусі! Беларускамоўныя..*

Спосабаў можа быць нашмат больш, але для самае галоўнае – гэта наяўнасьць жаданьня. Калі кожны з нас будзе адстойваць свае моўныя правы, то сітуацыя можа зьмяніцца ў лепшы бок. Ня варта чакаць ад дзяржавы зьмены моўнай палітыкі – мы самі можам яе зьмяніць. А дапамагчы нам у гэтым могуць тыя нешматлікія заканадаўчыя акты, якія можна выкарыстаць на сваю карысьць.

**Крыніца:** ARCHE, ampby.org, 22. 03, 2012

Аўтар тэксту: Зьміцер Суліменка

# РОДНАЯ МОВА

## САМАНАВУКА Роднае Мовы

*Менавіта, шляхам "саманавукі"*
*- пазнаем багацьці свае роднае мовы,*
*- прышчэпім карыстаньне ёю, і любоў да яе нашаму наступнаму пакаленьню — сваім дзецям.*

**Першы** ( і галоўны) прынцып саманавукі:

- нельга спадзявацца на дзяржаўную школьную сыстэму: у Беларусі цяпер яна пераважна працуе на шкоду беларушчыны — адвучае ад яе нашых дзяцей і моладзь.

**Каму карысная** прапанаваная сыстэма санавукі:

**1. ШКОЛЬНЫМ** дзецям і моладзі.

**2. НЯПІСЬМЕННЫМ у беларускай мове** дарослым, якія гавораць па-беларуску, але ня ўмеюць ёю карыстацца на пісьме — бо ў беларуска-моўную школу або ніколі не хадзілі, або вельмі даўно,

**3.** Г.зв. **ЧУЖАМОЎНЫМ** дарослым беларусам . Яны, дзякуючы чужамоўнаму асяродзьдзю, прывыклі да ўжытковага карыстаньня чужой мовай.

**Ажыцьцяўленьне** ( рэалізацыя) саманавукі:

Выдавецтва КРЫВІІ апрацавала й выдала шэраг падручнікаў, якія можна лёгка сьцягнуць (спампаваць) з сеціўнай старонкі **www.thepointjournal.com**, і самім аддрукаваць.

Калі-ж Вам самім цяжка гэта зрабіць, можаце зьвярнуцца з просьбай да выдаўца КРЫВІІ, на электронны адрас **jurka.stan@gmail.com**, падаючы пры гэтым свой-жа паштовы адрас.

<u>**ПЕРАЛІК** ужо выдадзеных падручнікаў:</u>

1. **КІРЫЛІЦА - Літары - Вымова**, 8 бачынаў
2. **ПЕРШЫЯ ЧЫТАНЬНІ**, 20 б.
   - большымі літарамі, з паказаньнем націску ў словах
3. **ЧЫТАНКА**, 10 б. - з паказаньнем націску ў словах
4. **ГРАМАТЫКА**, скарочаны агляд, 36 б.
5. **ГУТАРКІ** на тэмы з жыцьця, 11 б.
6. Беларускі **ПРАВАПІС**, 15 б.

Бачыны 14, 15 гэтага падручніка — *Розьніцы між правапісамі*, передрукоўваем у гэтым нумары КРЫВІІ.

7. **ГІСТОРЫЯ Беларусі**, кароткі агляд для беларускіх школаў за мяжою, цяпер у стадыі перапрацоўкі. Выйдзе пазьней сёлета.

*****

Правапіс усіх выданьняў — клясычная **ТАРАШКЕВІЦА**. Уважаем, што толькі тарашкевіца правільна перадае фанэтычныя асаблівасьці беларускай мовы, як:
*вымову мяккіх сугукаў (зычных) **ць, зь, дзь, сь, нь, ль** пры дапамозе мяккага знаку **Ь**,
* поўнае аканьне, яканьне.

Беларуская ЛАЦІНКА перадае гэтыя моўныя асаблівасці яшчэ лепш. Пра яе знойдзеце артыкул у наступным нумары КРЫВІІ.

**ДА ТАГО** - укладальнік пасьлядоўна карыстаецца
1.чыста беларускімі **граматычнымі канчаткамі**, як, прыкл. **- ох, ёх, -ом, ём** (замест наркомаўскіх *-ах, ях -ам, ям*),
**-у** ў родным склоне некаторых назоўнікаў, прыкл. **-народу**, заміж *народа*.
2. гістарычнымі назовамі беларускіх беларускіх мясцовасьцяў:
**Менск, Горадня, Берасьце, Наваградак, Полацак, Ашмяна, Смургоні, Вялейка, Маладэчна**,
3. беларускімі назовамі чужых краінаў: **Нямеччына, Славаччына, Турэччына, Мадзяршчына.**

***

Амаль усе падручнікі зьмяшчаюць таксама кароценькія **СЛОЎНІЧКІ**, зь перакладам беларускіх словаў ( тэрмінаў) на чэскую мову.

**ПАЖАДАНА**, каб беларускія культурныя актывісты ( або й самі бацькі) апрацавалі падобныя адпаведнікі зь перакладамі ў іншыя мовы пражываньня нашай дыяспары ( ангельскую, нямецкую, польскую..)

---

## Дзьвюхмоўе "ўзмацняе мазгі"

*(найперш да ведама бацькоў і настаўнікаў)*

Многія эмігранты ў Амэрыцы апынаюцца перад пытаньнем: ці варта передаваь нашчадкам мову дзядоў-бацькоў? У гэтым даўным пытаньні доўгі час пераважала думка ( нічым не абгрунтаваная), што дзьвюхмоўе перашкаджае мазгавому разьвіцьцю дзіцяці. Сёньня маем нарэшце адказ на яго ад экспэрымэнтальнай псыхалёгіі. Цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў нэўралягічныя досьледы пры дапамозе новых тэхналёгіяў прывялі якраз да супрацьлеглага адказу на пытаньне пра сувязь дзьвюхмоўя й мазгавога разьвіцьця. І шмат хто робіць практычныя выснавы з гэтага вынаходзтва.

У папулярных амэрыканскіх часапісах цяпер часта рэкамэндуюць бацьком узгадоўваць дзяцей у дзьвюхмоўі. Грунтоўны артыкул на гэтую тэму быў апублікаваны ў леташнім травеньскім нумары(31.05) газэты Нью Ёрк Таймс у форме гутаркі з прафэсаркай, доктарам псыхалёгіі Эленай Бялыстак ( Ellen Bialystok). Яна — спэцыялістка кагнітыўнае нэўралёгіі, якая амаль сорак год займаецца вывучэньнем уплываў дзьвюхмоўя на разьвіцьцё мазгавых здольнсьцяў чалавека.

Як паказалі экспэрымэнты, сказала Др. Бялыстак, дзьвюхмоўныя асобы маюць большую за аднамоўных здольнасьць разьбірацца зь дзьвюма праблемамі адначасна. Дзьвюхмоўнікі — лепшыя шоферы за аднамоўнікаў. А ў старэйшым веку, калі хто зь іх захворвае на заняпад памяці (г.зв. хвароба Альцгаймэра), дык гэтая немач прыходзіць да аднамоўных у сярэднім на шэсьць год раней, чымся да дзьвюхмоўных.

Мала таго, дзьвюхмоўе ўзмацняе агульны інтэлектуальны патэнцыял чалавека.

Выказваньне Др. Бялыстак у інтэрвію газэце Нью Ёрк Таймс:

"Ёсьць дзьве галоўныя прычыны, чаму трэба перадаваць спадчынную мову нашчадкам.

**Па-першае**, гэта спалучае дзяцей зь іхнымі продкамі.

А **па-другое**, гэта вынікі маіх досьледаў: дзьвюхмоўе карыснае чалавеку. Яно ўзмацняе магі, зьяўляецца практыкай мазгоў."

Але, як зазначыла Др. Бялыстак, каб мець карысьць зь дзьвюхмоўя, трэба ім увесь час карыстацца.

**Крыніца**: вытрымкі з артыкулу Янкі Запрудніка ў інфармацыйным бюлетэні ЗБЗ Бацькаўшчына БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ, Но. 2 за люты 2012.

## Чэская перакладчыца: я ня веру ў патрыятызм бяз роднай мовы

Ужо месяц, як на Тэлеграфе існуе рубрыка, прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы, удзельнікамі якога зьяўляюцца грамадзяне іншых краін, якія адмыслова і самастойна вывучылі беларускую мову. Сёньня вашай увазе мы прапануем інтэрв'ю чэскай перакладчыцы, арнітолага Сьвятланы Врановай (Světlana Vránová).

**Telegraf.by: Чым вас зацікавіла беларуская мова?**

**Вранова:** Першае, што мяне зацікавіла, было тое, што я яе нідзе ня чула. Я прыехала ўпяршыню ў Беларусь і паўсюль чула толькі расейскую. Гэта было вельмі дзіўна, і мне гэта не падабалася.

Другое, чым яна мяне зацікавіла, было тое, што я магла адразу ўсё разумець. Калі я ўрэшце сустрэла беларускамоўных людзей, у мяне ня было ніякіх праблемаў іх разумець.

І трэцяе, што я заўважыла зь вялікім зьдзіўленнем, было тое, як шмат у чым беларуская мова падобная да польскай! Я вельмі добра ведаю расейскую, але таксама і польскую мову. Раней я чула (а на самой справе, сустракаюся з гэтым меркаваньнем пастаянна), што беларуская мова – гэта такая “дзіўная” расейская. Але, на мой погляд, калі ўжо казаць, што яна “дзіўная” (але я яе дзіўнай зусім ня лічу!), то яна хутчэй “дзіўная польская”.



**Telegraf.by: Чаму вы вырашылі вывучаць беларускую мову?**

**Вранова:** Беларусы мне расказвалі аб сваёй слаўнай гісторыі. Расказвалі таксама пра крыўды, выкліканыя рускімі. Гаварылі, што рускія скралі ў беларусаў гісторыю, культуру, рэлігію, мову, частку краіны... Гаварылі, што яны вельмі добра разумеюць, як сябе адчувалі чэхі пасля 1968 году, таму што Беларусь знаходзіцца пад пастаяннай акупацыяй. Для мяне гэта ўсё было вельмі цікава, але я не магла зразумець, чаму яны мне пра ўсё гэта кажуць на мове сваіх, як яны гавораць, ворагаў?

Калі я іх запытвала, чаму яны гавораць, што любяць сваю краіну, шануюць гісторыю, ня любяць рускіх – але размаўляюць па-расейску, а не па-беларуску, я чула вельмі дзіўныя адказы: гэта ўжо немагчыма... Задоўга працягваецца русіфікацыя... Сёньня ніхто ўжо не размаўляе на беларускай мове, трэба з гэтым прымірыцца... Мова ня важная, важна адчуваць сабе беларусам... У школе нас беларускай вучаць замала...

Я не магла з гэтым пагадзіцца. Я ня веру ў патрыятызм бяз роднай мовы, ня веру ў адраджэнне нацыі з замежнай мовай і ня веру ў тое, што чалавек, які атрымаў хоць нейкія асновы беларускай мовы ў школе, ня можа размаўляць па-беларуску, калі хоча. Я перакананая, што кожны беларус можа ў любы момант прыняць рашэньне й пачаць размаўляць па-беларуску. Думаю, што правільны адказ тут не “гэта немагчыма”, але “нам ня хочацца”.

Ну, і таму я вырашыла вывучыць вашую мову. Каб паказаць, што нават за мяжой, нават іншаземец, які ня мае ніякіх асноваў са школы, можа навучыцца. Калі я была другі раз у Беларусі, я сказала, што наступным разам я буду размаўляць ужо толькі па-беларуску. А калі беларусы ня будуць мяне разумець, гэта іх праблема.

Навучылася я даволі хутка – менш чым за два гады. Вучылася толькі самастойна, чытаючы Біблію ў беларускім перакладзе, слухаючы Свабоду, гледзячы Белсат... Вельмі шмат я вучуся праз ліставаньне са сваімі беларускімі сябрамі. У мяне ёсьць супрацьлеглая праблема, якая, як правіла, бывае з замежнай мовай: я магу цалкам без праблемаў чытаць, разумеючы практычна ўсё, магу даволі без праблемаў пісаць – але маю праблему з размоўнаю мовай. Таму што, на жаль, у большасці няма зь кім практыкавацца.

**Telegraf.by: Як вы ацэньваеце моўную сітуацыю ў Беларусі?**

**Вранова:** Нажаль, я бываю ў Беларусі нячаста й ня ведаю дакладную сітуацыю. Вельмі шмат маіх сяброў беларускую ведаюць і многія ёй карыстаюцца. Іншыя, хоць па-беларуску не размаўляюць, вельмі добра ведаюць, што гэта ненармальна, нядобра і трэба гэта зьмяніць. Я ведаю прынамсі трох чалавекаў, якіх мне атрымалася натхніць, і яны сапраўды пачалі карыстацца беларускай.

Мне здаецца, што сітуацыя ў вас нагадвае сітуацыю ў Чэхіі ў пачатку XIX стагодзьдзя. Тады ў нас амаль увесь народ размаўляў па-нямецку, чэская мова лічылася “вульгарнай”, прымітыўнай, школы былі нямецкія, па-нямецку друкаваліся кнігі й газэты, па-нямецку прапаведвалі ў цэрквах... Усё паказвала на тое, што чэская мова мёртвая і ўжо ня можа вярнуцца. Як гэта скончылася, можаце бачыць. Мы жывыя й мова жывая. Зьявілася група інтэлектуалаў, чыя дзейнасьць распаліла пажар нацыянальнага адраджэньня. Раптам аказалася, што “мёртвая” мова зусім не такая ўжо й мёртвая! На працягу некалькі гадоў сітуацыя зусім зьмянілася: калі раней была сорамна размаўляць па-чэску, цяпер усе, хто хацелі сябе лічыць важнай персонай, размаўлялі па-чэску. Чэская мова ды чэскі дух ніколі ня спынялі сваё існаванне. Толькі на некаторы час “заснулі” і чакалі “лепшых часоў”. І мне здаецца, што ў вас тая ж сітуацыя. Беларуская мова і беларускі дух наагул не такія мёртвыя, як можа падавацца. Думаю, што дачакаемся часу, калі яны раптам прачнуцца.

**Telegraf.by: Якой вы бачыце будучыню беларускай мовы?**

**Вранова:** Часткава я адказала раней. Я цалкам упэўненая, што беларуская мова зноў загучыць у беларускім народзе. Да сваіх сяброў я гавару: зараз час падрыхтавацца. Калі зьменіцца сітуацыя ў краіне, і гэта можа здарыцца ўжо заўтра..., беларуская мова зноў атрымае свой гонар і ты будзеш шкадаваць, што яе ня ведаеш добра. Вучыся зараз. Прымі рашэньне й пачні гаварыць!

# РОЗЬНІЦЫ між ПРАВАПІСАМІ

паміж беларускім клясычным правапісам (тарашкевіцай) і г.зв. «наркомаўкай» ( савецкім правапісам).

Найбольш выразныя рысы клясычнага правапісу, якія добра перадаюць беларускую вымову, і якія былі скасаваныя савецкім правапісам («наркомаўкай»):

**1**. Згрупаваньні *двух пасьлядоўных мяккіх сугукаў* **Ц, З, Ц, ДЗ, Н, Л.**

Мяккая вымова апошняга мяккога сугуку азначаецца гэткімі спосабамі:
а) пісаньнем мяккога знаку **Ь** пасьля яго:
***косьць, радасьць, злосьць***
б) пісаньнем зьмякчальных самагукаў **Я, Е,Ё, Ю, І** пасьля яго:
***расьце, косьці, разьліць, езьдзіць, сьнег, пісаньне, жыцьцё***

У гэтых выпадках наркомаўскі правапіс ня прызнае мяккай вымовы пачатковага сугуку ў згрупаваньні — ён **касуе першы мяккі знак**, з такімі вынікамі:

**косць** (заміж клясычнага косьць), **радасць, расце, косці, разліць, ездзіць, снег, пісанне, жыццё.**

Такая вымова згрупаваных мяккіх сугукаў — ненатуральная, штучная. Яна набліжае беларускую вымову да расейскай.

**2.** Згрупаваньні такога роду:
мяккі сугук + губны сугук **Б, П, В, М, К** + нескладатворны самагук **Я, Е, Ё, Ю, І** .

**ПРЫКЛАДЫ**: ***сь-в-ятло, зь-б-яру, сь-п-ех, зь-м-ена, ась-к-епак***

У гэтых выпадках наркомаўскі правапіс таксама ня прызнае мяккай вымовы пачатковага сугуку, з такімі вынікамі: **святло** (заміж класычнага сьвятло), **збяру, спех, змена, аскепак.**

Такая вымова — ненатуральная, штучная.

**3**. Наркомаўскі правапіс ня прызнае зьмякчэньня сугуку **З** (якім канчаюцца прыназоўнікі або прыстаўкі)перад складатворнымі самагукамі **я, е, ё, ю, і**

У «наркомаўцы» гэты гук застаецца цьвёрдым, і пасьля яго можа ўжывацца апостраф ‘ (пасьля прыставак).

**ПРЫКЛАДЫ**: **з‘ява** (заміж клясычнага зьява)
**уз‘ехаць, з‘есці,**
**з імі** (заміж клясычнага зь імі)
**з ёю**

**4.** Правапіс часткі **НЕ**, прыназоўніка **БЕЗ:**
Клясычны правапіс тут мае ясныя правілы:
Гук **Е** ў іх пераходзіць у **Я,**
калі стаяць беспасярэдне перад націсьненым складам.

**ПРЫКЛАДЫ**: нядо'бры, ня ро'біш, бяздоль'ны, бяз ды'му.

Але: калі **НЕ, БЕЗ** стаяць 2 або больш складоў перад націскам, а ў першым складзе перад націскам ужо маем **А** або **Я**, дык тады гук **Е** ў **НЕ, БЕЗ** застаецца, не пераходзіць у **Я**.

**ПРЫКЛАДЫ**: ***невялі'чкі, не благі', без вады', без дажджу'.***

Але: калі ў такім выпадку ў першым складзе перад націскам стаяць іншыя самагукі, чымся **А** або **Я**, дык тады гук **Е** пераходзіць у **Я**.

**ПРЫКЛАДЫ**: ***ня дурны', ня куры'ць, бязь лісто'ў.***

Наркомаўскі правапіс у бальшыні выпадкаў ня прызнае такіх правілаў пераходу **Е** ў **Я.**

**ПРЫКЛАДЫ**: **не дурны’, не куры’ць, без лісто’ў** (заміж клясычных — ня дурны’, ня куры’ць, бязь лісто’ў)

Такая вымова — ненатуральная, штучная.

**5**. Правапіс гуку **І,** у сказе:
Наркомаўскі правапіс ня прызнае пераход гуку **І** у **Й** на пачатку слова, калі папярэдняе слова канчаецца самагукам (**а,я,э,е,ы,і,о,ё,у,ю**).

**ПРЫКЛАДЫ: мы іграем, бацька і маці**
(заміж клясычных: мы йграем, бацька й маці)

**Няма Правоў Чалавека бяз Права Нацыі на Культурную Незалежнасьць.**

Свае пашпарты, грошы, нумарныя знакі на аўтамабілях, адрозныя ад расейскіх дзяржаўныя сымвалы — гэта ўсё для дурняў.

Незалежнасьць пачынаецца з устанаўленьня паўнавартаснай мяжы з Расеяй; з увядзеньня нашай мовы ва ўсе сфэры жыцьця; зь перайменаваньня вуліцаў; са зносу помнікаў катам і ворагам нашай нацыі; з абмежаваньня дзеяньня расейскіх СМІ на нашай тэрыторыі; з наданьня расейскай культуры статусу замежнай; зь вяртаньня нашай гістарычнай сымболікі і г.д. Пацешна, што гэтага не разумее нават Захад. Але можа пасьля краху свае палітыкі ў Беларусі (ён гэта прызнае), ён пачынае хоць нешта разумець?

КРЫНІЦА: http://aljans.org
Аўтар: Павал Біч

## Запруднік адказаў Віку: эміграцыйны ўрад – толькі на базе Рады БНР

**Янка Запруднік, доктар гісторыі і адзін зь лідэраў беларускай эміграцыі адгукнуўся на онлайн-канфэрэнцыю на сайце «Свабоды»:**

1 сакавіка сёлета адбылася на сайце радыё «Свабода» (РС) анлайн-канфэрэнцыя зь ведамым нямецкім дыпляматам Гансам-Георгам Вікам. Адна са слухачак задала яму два пытаньні: «Што Вы ведаеце аб Беларускай Народнай Рэспубліцы? І ад якой даты адлічаеце паўстаньне сучаснай беларускай дзяржаўнасьці?»

У адказах сп. Вік назваў БНР 1918 году «незалежнай дзяржавай», зазначыўшы пры гэтым, што дзяржава гэтая «была праз хуткі час захопленая камуністамі». Але слухачка хацела пачуць больш ад уплывовага замежнага дыплямата. «Ці ня лічыце Вы, — папыталася яна, — што, каб прадухіліць зьнішчэньне Беларусі, варта Радзе БНР надаць статус часовага ўраду Беларусі ці ўраду на выгнаньні? Хто, на Ваш погляд, павінен быў бы ініцыяваць працэдуру?»

Ганс-Георг Вік адразу ж заявіў катэгарычна: «Рада БНР сёньня ня можа быць прызнанай аніводнай дзяржавай урадам у выгнаньні».

Катэгарычнасьць заявы сп. Віка пра непрызнаваньне Рады БНР абумоўленая, як выглядае, ягонай далейшай заявай. А сказаў ён вось што: «Пасьля антыканстытуцыйнага перавароту ў 1996-м ніхто так і не паспрабаваў стварыць эміграцыйны ўрад у замежжы. Пра гэта можна пачаць думаць цяпер, улічваючы апошнюю напружанасьць у стасунках паміж ЭЗ і Менскам».

Дык ці не агучвае гэтым сп. Вік (свой асабісты ці калектыўны?) праект стварэньня эміграцыйнага ўраду Беларусі, складзенага з новых беларускіх палітычных эмігрантаў? І калі так, то ён глыбока памыляецца, што гэткі ўрад павінен фармавацца ў абход гістарычнае Рады БНР. Наадварот, усякі беларускі замежны ўрад будзе найбольш эфэктыўным, калі ён будзе сфармаваны на ідэйнай базе Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзейнасьць замежнага ўраду мусіць мець пад сабой гістарычны грунт, ідэйную спадчыну, лёсы папярэдніх дзеячоў-патрыётаў, а таксама прэцэдэнты прызнаваньня Рады як інстытуцыі й Рады як носьбіта ідэі незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржавы.

Хоць дыпляматычная гісторыя Беларускай Народнай Рэспублікі й Рады БНР вывучаная толькі ў агульных абрысах, факты прызнаньня Рады БНР як ураду на выгнаньні, асабліва прызнаньня de facto, агульнаведамыя. Рада БНР, пры розных старшынях, была прызнаваная праз супрацоўніцтва зь ёю з боку розных урадаў у розныя часы. Варта прыгадаць тут супрацоўніцтва Рады пад старшынствам Пётры Крэчэўскага з чэхаславацкім урадам, а пад старшынствам Міколы Абрамчыка — з уладамі Злучаных Штатаў. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла ў нядаўным часе правяла шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі ўрадаў у сталіцах Чэхіі, Польшчы, Эстоніі й Латвіі. Нават урад Рэспублікі Беларусь на пачатку 1990-х прызнаў быў de facto Раду БНР пад старшынствам Язэпа Сажыча, калі міністэрства замежных справаў РБ рабіла намаганьні пераняць ад Рады БНР ейны мандат.

Як ведама, на такі перадчасны крок Рада БНР не пайшла. Яна працягвае сваю дзейнасьць пад старшынствам Івонкі Сурвіллы ды паступова папаўняецца (да ведама сп. Віка) новымі сябрамі з сучаснай Беларусі.

**Крыніцв**: Радыё Свабода, 11 сакавіка 2012

---

## САКАВІКОВЫ ЗВАРОТ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам — Днём Волі, калі наш народ пасьля доўгага прыгнёту абвесьціў сьвету, што ён хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі.

Здабылі мы незалежнасьць 25-га Сакавіка 1918 году й зьберагглі дасюль ідэалы БНР, ня гледзячы на шматлікія перашкоды, таму што былі паміж намі героі, якія разумелі цану волі й бясконца любілі свой край і свой народ.

Гэтае маё Сакавіковае прывітаньне хачу прысьвяціць аднаму з нашых сучасных герояў, над жыцьцём якога варожы рэжым зьдзекуецца сёньня — Сяргею Каваленку. Сяргей — дужы, адважны патрыёт: ён вырашыў па-свойму змагацца за волю і ўзьлез на калядную ялінку ў Віцебску зь бел-чырвона-белым сьцягам у руках. Ворагі беларушчыны ня могуць дараваць яму гэты сьмелы ўчынак і намагаюцца зьнішчыць яго, кінуўшы за краты.

Словы, якія Сяргей перадаў нам праз сваю жонку Алену, застануцца ў сэрцы кожнага беларуса. Сяргей прасіў, каб сьвяткавалі Дзень Волі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ў руках. Гэта будзе падтрымкай і для яго. Ён заявіў, што дабрабыту ня можа быць бяз культуры, а падмуркам культуры зьяўляецца родная мова, і што трэба шанаваць свае нацыянальныя каштоўнасьці - гісторыю й мову. Сяргей сказаў, што мы самі - наш беларускі народ - уратуем сваю краіну, і толькі тады падтрымаюць нас іншыя краіны. Таксама сказаў, што толькі беларускі народ можа памагчы яму выйсьці зь цяжкога стану, у якім ён знаходзіцца.

Дарагія суродзічы, не расчаруйма героя! Ён верыць у нашу беларускасьць і ў нашую мужнасьць. Ён верыць у свой народ і гатоў аддаць свае жыцьцё дзеля гэтае веры. Будзьма годнымі героя! Як сказаў Антось са Слуцку: НАША ЧАРГА ДЗЕЙНІЧАЦЬ! Кожны чым і як можа. Дзесяць мільёнаў галасоў не застануцца без адказу! Дык памажы нам, Божа! Памажы Божа Сяргею Каваленку!

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла.

## Беларусы Эўразьвязу

# Перапіс - найвышэйшая ступень хлусьні

Сёньня былі апублікаваныя некаторыя вынікі мінулагодняга нацыянанальнага перапісу. Паводле Галоўнага статыстычнага ведамства, у Польшчы пражывае 47 тысяч беларусаў зь ліку якіх 10 тысяч лічаць сябе адначасова і палякамі і беларусамі. Перапіс павінен быў як мага больш дакладна адлюстраваць актуальную дэмаграфічна-сацыяльную і эканамічную сітуацыю ў краіне пасля яе далучэньня да Еўразьвязу.

Лепшых вынікаў чым тыя 10 гадоў таму я і не чакаў. Ён павінен быў адпавядаць патрабаваньню і мэтам, пастаўленым заказчыкам, гэта значыць, урадам. Урад найболей цікавіўся колькасьцю насельніцтва, узростам, адукацыяй, міграцыяй, усім тым, што можа дапамагчы ў стратэгіі далейшага разьвіцьця. Але ж няведама чаму цікавіліся нацыянальнасьцю і мовай, што для мяне асабіста надзвычай важнае. Вось і была ў мяне іскарка надзеі, што разам з уступленьнем у Еўразвяз скарачацца меншасьці ўжо ня будуць. Ня мае сэнсу. У Брусэлі гэта не ўхваляецца. Ды і самі людзі ўжо ня мусяць прыкідвацца кімсьці іншымі. Рэпатрыяцыя ў Беларусь да Лукашэнкі не пагражае, як гэта было пасьля вайны, хіба што сам чалавек вырашыць жыць і працаваць у нейкай заходняй краіне. Былі два віды апытаньня: поўнае і прадстаўнічае, з паўтары дзясяткам альбо амаль ста пытаньнямі. Зьбіралі дадзеныя чатырма спосабамі: шляхам тэлефонага апытаньня, з выкарыстаньнем так званых адміністрацыйных рэестраў, падчас непасрэдных візітаў перапісчыкаў, якіх на Падляшшы было задзейнічаных больш як 600 і ўпяршыню, шляхам самаперапісу ў інтэрнэце.

Зьбіралі, гэта ня тое слова. Хто зьбірае, то і нешта зьбярэ. Перапіс быў няпоўны, праводзіўся ён як мінімум неакуратна. Некаторыя яўна няпісьменныя перапісчыкі не адрозьнівалі грамадзянства ад нацыянальнасьці. Яны часта ня пыталіся пра нацыянальнасьць і родную мову. «Маўляў, а што тут пытацца: усе жывем у Польшчы, дык усе мы - палякі!» Гэта ўсё роўна, што пасяліўшыся ў Кітаі, я стаў бы кітайцам. Бывалі выпадкі, што па-за ўсялякай увагай засталіся цэлыя вёскі. Ні перапісчыка, ні нават тэлефоннага гудка. Недакладнасьць была закладзена ў самой метадалогіі перапісу. На нацыянальнасьць быў абавязак зьвяртаць увагу ў тых 86 гмінах, дзе меншасьці складаюць як мінімум 10% ад агулу насельніцтва. Выходзіць, што калі гэта 9,9%, то 99 на тысячу чалавек маглі праігнараваць. Калі на маю вуліцу ў мястэчку ніхто не заходзіў і не тэлефанаваў, адкуль у статыстычным ведамстве могуць ведаць, што за апошнія пару гадоў у двух хатах памяняліся жыхары. Яны не ананімныя, прапісаныя і вядомыя ў гарадской управе, толькі як даведацца, ня пытаючыся ў іх саміх, якой яны нацыянальнасьці і якая ў іх родная мова. Значыць палова беларусаў не знайшла адлюстраваньня ў лічбах. Аднак яны жывуць і мне цікава кім іх запісалі. Даведацца немагчыма. Дадзеныя засакрэчаныя. Як гаворыцца «для ўнутранага карыстаньня ўпаўнаважаных органаў». Здагадваюся. Раз тут Польшча, дык напэўна ня в'етнамцамі. Вось толькі цікава, чаму ў Польшчы пабольшала слёнзакоў, кашубаў, немцаў і ўкраінцаў, а паменшала беларусаў? Суцяшальнае толькі адно: з перапісу вынікае, што з усіх меншасьцяў беларусы найменей паланізаваныя. Хоць слёнзакоў больш ледзь не ў дзесяць разоў, але ў працэнтным вылічэньні найболей беларусаў лічаць сябе толькі беларусамі.

Тым ня меней, у сьвятле маіх назіраньняў і вышэй сказанага, я не пагаджаюся з вынікамі перапісу ў пытаньні датычным нацыянальнасьці і мовы. Лічу іх сьведама ці нясьведама паніжанымі на палову. Гэты перапіс прыблізна гэтак варты даверу, як і вынікі выбараў у Беларусі. Там ня дураць сабе галаву рэальным высьвятленнем настрояў і падтрымкі кандыдатаў. Пішуць лічбы, якія трэба напісаць. Так і тут. А што нехта не пагаджаецца - яго праблема.

Перапіс - найвышэйшая ступень хлусьні.

**Кастусь Бандарук, Радыё Рацыя. 22 сакавіка 2012**

---

# Беларускія дэмакраты сустрэліся з еўрадэпутатамі

**Перанос чэмпіянату сьвету па гакеі, адмена візаў у Еўропу беларускім студэнтам, магчымасьць стварэньня беларускамоўных СМІ – гэта толькі некаторыя тэмы, якія закранулі падчас чарговай ужо сустрэчы з еўрадэпутатамі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў замежжа.**

Гаворыць **Сяргей Аксімовіч**, міжнародны сакратар Офісу Беларускай палітычнай эміграцы.

*- Абмяркоўвалі яшчэ шэраг пытаньняў, як інтэрнэт, тэлебачаньне па-беларуску. Еўрадэпутат падтрымаў маю ідэю перакладаць дакументы, якія тычацца Беларусі на беларускую мову. Абмяркоўвалі магчымасьці стварэньня адзінай адукацыйнай праграмы для беларускіх студэнтаў. Абмяркоўваліся таксама магчымасьці адмены візаў для беларусаў увогуле, для студэнтаў у прыватнасьці, магчымасьць пераносу чэмпіянату сьвету па гакеі 2014 году ў якую-небудзь іншую краіну.*

У сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў ўдзельнічаў намесьнік старшыні камісіі па замежных справах Эўрапарламенту – Міхаэль Галер, які выказаў думку, што Нямеччына з задавальненьнем пяройме гонар правядзеньня чэмпіянату сьвету па гакеі ў сувязі з тым, што сітуацыя ў Беларусі ў галіне правоў чалавека пагаршаецца з году ў год.

**РАЗВАЖАНЬНІ**

Меркаваньне, што незалежнасьць звалілася на нас зь неба, дамінуе сярод людзей, якія ня ведаюць мінулага Беларусі і ніколі ня жылі ў нацыянальным кантэксьце, -- пераканаты **Захар Шыбека.** -- Для такіх асоб назалежнасьць стала нечаканым гістарычным паваротам.

# ДЗЕНЬ ВОЛІ 2012 у Вільні

Шаноўныя сябры!

Віншуем Вас з Днём Волі! Гэта, нясумненна, самае галоўнае сьвята як у гэтым месяцы, так і ўвогуле за год. Для нас вельмі істотна, што ўсе гэтыя гады мы не застаемся бяз увагі, нам заўжды хапае моцаў для падтрымкі актыўнай пазыцыі й што апошнім часам нас робіцца ўсё болей.

Гэты месяц выдаўся складаным, але прадуктыўным. Цягам цэлага тыдню ў Вільні праходзілі розныя мерапрыемствы, зьвязаныя з Беларусамі й беларускасьцю.

19 сакавіка адбылося ўрачыстае адкрыцьцё «Беларускага тыдню», які пачынаўся з выставы беларускай мастачкі Таццяны Дзянісавай з сымбалічнай назвай «Сны й рэальнасьць». Дзеяньне адбывалася ў Віленскім гарадзкім самакіраваньні. Узровень правядзеньня быў сапраўды эўрапейскім: на адкрыцьці прысутнічалі мэр Вільні Артурас Зуокас, старшыня Камітэту па замежных справах Літвы Эмануэліс Зінгерыс, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас, паслы Польскага й Чэскага амбасадаў, праф. Станіслаў Шушкевіч, а таксама прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў.

21 сакавіка ў Літоўскім сойме была праведзена сустрэча беларускіх і літоўскіх дзеячоў і прадстаўнікоў розных арганізацыяў. На ёй прысутнічалі: Эмануэпіс Зінгерыс, Саўлюс Печалюнас, Стасіс Каўшыніс, Аляксандар Мілінкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Алег Мяцеліца, Хведар Нюнька, Валянцін Голубеў, прадстаўніца польскай амбасады і іншыя. Былі абмеркаваныя пытаньні, зьвязаныя з праблемамі ў Беларусі, а таксама шляхі далейшых узаемаадносінаў паміж Беларусьсю й Эўразьвязам.

У выніку была складзена й падпісана рэзалюцыя, якая пазьней будзе прадстаўлена ў Радзе Эўропы. Асноўнымі пунктамі дэкларацыі апынуліся наступныя: узмацьненьне кропкавых санкцыяў супраць Аляксандра Лукашэнкі й ягонага бізнэс атачэньня; запыт на адмену правядзеньня чэмпіянату сьвету па гакеі ў Беларусі; патрабаваньне ад рэжыму ўвядзеньня мараторыя на сьмяротнае пакараньне. Асабліва агаворвалася магчымасьць зьніжэньня коштаў за візы для беларусаў у краінах Эўропы.



22 сакавіка беларусы ўшаноўвалі памяць Кастуся Каліноўскага. А 5-й гадзіне на Лукіскім пляцы сабралося каля дваццаці чалавек. Яны прынесьлі кветкі й зьнічкі, якія пасьля былі пакладзены на помнік нашаму герою. У паветры луналі бел-чырвона-белыя сьцягі. Падчас выступу Хведар Нюнька падкрэсліў, што была заплянавана рэканструкцыя Лукіскага пляцу, на якую былі заяўленыя сем праектаў. Але ні адзін зь іх не прадугледжваў захаваньне крыжу. Сябры ТБК зьвярнуліся да прэм’ер-міністра Андрюса Кубілюса з просьбаю захаваць яго. Таму рэканструкцыю адклалі да таго часу, пакуль ня зьявяцца грошы на захаваньне помніка. Падчас акцыі выступалі Кірыла Атаманьчык – прадстаўнік студэнцкага аб’яднаньня StudAliance, – Валянцін Голубеў – Дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі дванаццатага й трынаццатага скліканьня, адзін з аўтараў першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, доктар гістарычных навук – і Алесь Пушкін –вядомы беларускі мастак. Пасьля некаторыя рушылі на гару Гедыміна, на якой, як мяркуецца, і быў пахаваны Кастусь Каліноўскі.

23 сакавіка ў Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве адбылася выстава «Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка». На ёй былі прадстаўлены арыгіналы невядомых раней дакумэнтаў і артыкулаў, якія засьведчылі існаваньне й дзейнасьць прадстаўнікоў новай дзяржавы.

У той жа дзень аднайменная выстава адбылася ў Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсітэце, толькі прадстаўлены на ёй былі копіі дакумэнтаў. Мерапрыемства адзначылася тым, што на ім прысутнічаў пераапрануты ў Антона Луцкевіча Павал Клюеў, які пасьля сваёй прамовы падпісваў пашпарты Беларускай Народнай Рэспублікі ўсім жадаючым.

24 сакавіка. У гэты дзень у віленскай ратушы выступаў хор «Унія», які выконваў ня толькі беларускія й клясычныя творы, але й кампазыцыі сусьветна вядомых рок-гуртоў, як, напрыклад, Бітлз. Перад канцэртам слова трымаў Хведар Нюнька, які прадставіў зварот Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы. У ратушы сабралася поўная заля. Акрамя віншаваньня ўсіх беларусаў са сьвятам Дня Волі, зварот зьмяшчаў словы, прысьвечаныя герою Беларусі і пакутніку лукашыскага рэжыму Сяргею Каваленку.



Пасьля канцэрту ўсе жадаючыя мелі магчымасьць пазнаёміцца й паразмаўляць з чальцамі хору на сьвяточным фуршэце.

25 сакавіка шмат людзей сабралося на могілках Росы, дзе яны ўшаноўвалі памяць выбітных людзей Беларусі – Антона й Івана Луцкевічаў. паехалі на Еўфрасінеўскія праваслаўныя могілкі, дзе таксама ўшаноўвалі памяць Тодара Вярнікоўскага — былы міністр БНР, — магіла якога была выпадкова знойдзена Людвікай Кардзіс.

Пазьней ўсе жадаючыя прынялі ўдзел у аўтапрабезе па Вільні з нацыянальнымі сьцягамі Літвы й Беларусі. У ім прынялі ўдзел прыблізна 15 аўтамабіляў. Пасьля праездкі па горадзе, калёна рушыла да літоўска-беларускай мяжы.

Увечары адбылася сьвяточная вячэра, на якой сабраліся прадстаўнікі розных арганізацыяў, неабыякавыя да лёсу Беларусі сталыя й маладыя людзі. Усе выказалі задавальненьне праведзеным тыднем, знаходзілі мейсца й для аб’ектыўнай крытыкі. Але самае галоўнае, што ў гэтым годзе арганізацыяй і правядзеньнем сьвята й прысьвечанага да яго Беларускага тыдню займаліся ня толькі сябры Таварыства Беларускай Культуры – вырашальны ўклад зрабілі сябры палітычнага Прадстаўніцтва Беларусі ў Літве.

**Кірыла Калбасьнікаў, Вільня, сакавік 2012 г.**

## СПОРТ

# Акцыя – “Палітвязьні й Чэмпіянат 2014”

**Радыё Рацыя**, 25-га лютага 2012 г.

Ужо прыйшлі першыя водгукі на наш першы заклік: ад Радыё Свабода, Нашай Нівы, Хартыі 97 з мноствам камэнтароў. Ад газэты Беларус ды паасобных сяброў БАЗА і іншых арганізацыяў:

Мы даведаліся пра цікавае спатканьне з **Ўэйнам Грэцкім** ў рэстаране ў Філадэлфіі, дзе зьбіраюцца гульцы каманды Philadelphia Flyers. Цяпер у гэтай камандзе гуляе вядомая сусьветная зорка **Ярамір Ягр** (Jaromir Jagr). Ягоны нумар 68 адзначае той сумны 1968 год, калі савецкія войскі ўварваліся ў Чэхаславаччыну і задушылі Праскую вясну. Так відаць, што і спартоўцы гатовыя выступаць супраць агрэсіі і несправядлівасьці.

У пачатку году Прэзыдэнт ЗША падпісаў закон, які датычыцца Беларусі: Belarus Democracy and Human Rights Act of 2011 – Public Law 112-82

***“It is the policy of the United States to: ...call on the International Ice Hockey Federation to suspend its plan to hold the 2014 International World Ice Hockey Championship in Minsk until the Government of Belarus releases all political prisoners”***

Сайт **www.freebelarusnow.org** ужо таксама доўгі час спалучае правядзеньне Чэмпіянату ў Беларусі з вызваленьнем палітычных вязьняў:

Пачынайце адапаведныя заклікі і інфармацыю праз Facebook, Twitter!

Калі ласка, пастарайцеся знайсьці месцы, дзе зьбіраюцца гакеісты камандаў ЗША, Канады, Чэхіі, Швэцыі, Фінляндыі, Нямеччыны. Іхняе зацікаўленьне можа дапамагчы пераканаць кіраўніцтва камандаў і гакейныя Фэдэрацыі краінаў і арганізатара Чэмпіянату – Міжнародную Гакейную Фэдэрацыю (IIHF) , што як хутчэй трэба дамагчыся вызваленьня палітычных вязьняў**.**

Дапамажыце знайсьці адрасы гэтых установаў ва ўзгаданых краінах, як і фірмаў – спонсараў Чэмпіянату. Зацікаўце розныя студэнцкія арганізацыі ў гэтай акцыі.

Якая арганізацыя мінулымі гадамі ладзіла пратэстныя акцыі з удзелам мясцовых актывістаў шматлікіх гарадоў сьвету? Са свайго боку будзем пашыраць атрыманую інфармацыю і прыклады тэкстаў лістоў, адозваў і ўлётак.

**Радыё Свабода,** 27-га лютага 2012 г.

Пытаньне пра чэмпіянат па гакеі-2014 абмяркуюць на Кангрэсе IIHF.

Пра гэта паведаміў швэдзкаму выданьню *Svenska Dagbladet* мэнэджэр Міжнароднай фэдэрацыі гакею з шайбай, Шымон Шэмбэрг.

Як заявіла ў інтэрвію журналістам кіраўніца швэдзкай сэкцыі Amnesty International **Лізэ Бэрг**, сьвята ня можа ладзіцца там, дзе масава парушаюцца правы чалавека. Паводле прадстаўнікоў Amnesty International, апошнім часам сытуацыя з дэмакратычнымі правамі і свабодамі ў Беларусі яшчэ больш пагоршылася.

Прэзыдэнт фэдэрацыі Рэнэ Фазэль заявіў, што падрыхтоўка ідзе добра і аніводная дзяржава-сябра фэдэрацыі ня выказала прэтэнзіяў. Аднак з прычыны «пікантнасьці» беларускай тэмы ўжо назаўтра было пастаноўлена зноў разгледзець пытаньне пра месца пяршынства на травеньскім Кангрэсе, піша Svenska Dagbladet са спасылкай на словы мэнэджэра Шэмбэрга.

Газэта адзначае, што прымаць рашэньне будуць тыя-ж асобы, якія прагаласавалі за Менск у 2009 годзе.

# Ад Міжнароднай федэрацыі гакея патрабуюць пераносу ЧС-2014

**Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю па Беларусі, у якой заклікаў гакейныя арганізацыі націснуць на Міжнародную федэрацыю гакея на лёдзе, патрабуючы пераносу Чэмпіянату сьвету-2014 у іншую краіну.**

Дэпутаты запатрабавалі ад уладаў краіны неадкладнага і бязумоўнага вызваленьня палітычных зняволеных. На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка заявіў, што перанос у іншую краіну чэмпіянату сьвету па гакеі ўдарыць па іміджы Міжнароднай федэрацыі.

**Антон Разумоўскі, Радыё Рацыя,** 30-03-2012

**КРЫВІЯ - Культурна-асьветніцкая газэта**
Выданьне беларускай дыяспары ў Чэхіі
MK ČR E 16919
РЭДАКЦЫЯ
Юрка Станкевіч
Ганна Васілевіч
Адрас рэдакцыі: Časopis KRYVIJA
ul. Malešická 553/65, 108 00 Praha 10